Сёння на форуме «Мінскі дыялог» выступіць Аляксандр Лукашэнка.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 79 (4434)

8 кастрычніка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**РЭКОРДЫ**

## Дзевяць кандыдатаў на адно месца?

*Цяперашнія парламенцкія выбары могуць стаць рэкорднымі для Аршаншчыны па колькасці кандыдатаў.*

Акрамя збору подпісаў кандыдатам у дэпутаты можна вылучыцца яшчэ двума спосабамі: ад партый і ад працоўных калектываў. Так, па Аршанскай-Дняпроўскай выбарчай акрузе №26 свае ініцыятыўныя групы зарэгістравалі пяць кандыдатаў, а зараз да іх далучыліся яшчэ чатыры вылучаныя працоўнымі калектывамі і партыямі.

Калі ўсе прэтэндэнты збяруць подпісы, то дзевяць кандыдатаў у дэпутаты стануць абсалютна рэкорднай колькасцю за ўсю гісторыю выбараў у Аршанскім раёне.

**СІТУАЦЫЯ**

## «Спектакль закончаны…»

***Маісей Мазько**, адзін з праціўнікаў будаўніцтва акумулятарнага завода ў Брэсце распавёў "Народнай Волі", як з яго збіраліся зрабіць злачынцу і чым усё скончылася.*

Стала вядома, што спынена крымінальная справа ў дачыненні да двух праціўнікаў будаўніцтва акумулятарнага завода пад Брэстам – **Маісея Мазько** і яго сына **Дзяніса**, якіх падазравалі ў незаконным абароце боепрыпасаў. А пачалася гісторыя ў красавіку гэтага года…

– Я працую ў манастыры і 2 красавіка на працоўнай машыне ехаў днём па рабочых справах, – успамінае Маісей Сцяпанавіч. – Заўважыў, што мяне суправаджае машына ДАІ. Праз нейкі час спынілі, пачалі вельмі настойліва і доўга правяраць аўтамабіль. Зазірнулі пад капот, праверылі не толькі нумар рухавіка, але нават нумары на рамянях бяспекі.

**– Што шукалі?**

– Спачатку быццам бы нічога не знайшлі падазронага, закрылі дзверы і тут адзін з супрацоўнікаў ДАІ запытаўся: "А што ў вас за пакет ляжыць у машыне?" Адкуль мне ведаць, што там за пакет? Тым больш гэта не мае рэчы. Разгарнулі яго, а там – 30 патронаў і нейкае рэчыва, якое падобна на выбухоўку. Я ім адразу ў вочы выпаліў: "Хлопцы, метады ў вас даволі мярзотныя".

Літаральна праз некалькі хвілін пад'ехалі таварышы ў цывільным, складвалася ўражанне, што яны дзесьці хаваліся побач і чакалі свайго "выхаду на сцэну". Затым прыехала група з РУУС, пазней – следчыя. Усе працэдуры працягваліся дзесьці з 15.30 і да 12 гадзін ночы. У Следчым камітэце мяне дапытвалі аж да пяці раніцы, а затым адправілі ў ізалятар часовага ўтрымання. Праз час даведаўся, што затрымалі і майго сына Дзяніса.

**– Але праз тры дні вас адпусцілі на волю…**

– Так, а праз дзень выйшаў з ізалятара і Дзяніс. Я цудоўна разумеў, што ў дачыненні да мяне зладзілі правакацыю, меркаваў, што справу закрыюць куды раней, але, мабыць, у сілавікоў быў нейкі свой сцэнарый. Ім патрэбна было трымаць мяне ў падвешаным стане, але раптам сітуацыя пачала мяняцца.

Была распачата крымінальная справа ўжо да ўласнікаў акумулятарнага завода, супраць адкрыцця якога мы і выступалі. Аляксандр Лукашэнка выказаў сваю пазіцыю з гэтай нагоды. А днямі з Брэсцкага міжраённага аддзела Следчага камітэта паведамілі, што крымінальны пераслед у дачыненні да мяне і сына спынены за адсутнасцю ў нашых дзеяннях прыкмет складу злачынства. Як кажуць, спектакль закончаны, гледачы могуць разыходзіцца.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

**ЛЁС ЧАЛАВЕКА**

У. Калачык з жонкай.

## Блізіцца 90-гадовы юбілей аднаго з самых паспяховых за савецкім часам беларускіх гаспадарнікаў, Героя Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Калачыка.

*(Пра яго жыццёвы шлях чытайце на 8-й стар.)*

**ФОРУМ «МИНСКИЙ ДИАЛОГ»**

# Европа на краю пропасти…

Согласитесь, тревожные слова. Но они вынесены в заголовок неслучайно.

Организаторы форума «Минский диалог», который на этот раз собрал в нашей столице более 700 представителей самых разных стран, уже в анонсирующих материалах выразили тревогу по поводу того, что *«Восточная Европа и европейский континент в целом вошли в опасный и плохо предсказуемый период. Конфронтация между крупнейшими международными акторами на фоне распада прежних основ стратегической стабильности (разоруженческих режимов) грозит перерасти в новую большую войну, эпицентром которой с большой вероятностью может стать регион Восточной Европы. Именно так – через войну – в истории многократно происходила трансформация системы международных отношений, когда государствам не удавалось вовремя адаптировать правила поведения и механизмы их исполнения».*

Как ни печально, но угрозы безопасности очевидны. «Конфронтация между Россией и странами Запада позволяет многим исследователям проводить параллели с эпохой холодной войны. Как и во времена холодной войны, кроме геополитического противостояния, наблюдается и конфликт ценностных систем, хотя он и не приобретает такой глубины и размаха, как в середине прошлого века. Россия и Запад ограничили контакты в экономической, политической и военной сферах».

Международные отношения претерпевают трансформацию, но, к сожалению, не в лучшую сторону. В результате распада и эрозии предыдущих договоров и режимов и при наличии ядерного оружия у ключевых игроков продолжает повышаться опасность развязывания новой мировой войны.

События в Грузии, Украине и других регионах свидетельствуют, что у геополитических игроков отсутствует четкое понимание пределов допустимого («красных линий») в международной политике. Это, как отмечают организаторы форума, делает международную безопасность и стратегическую стабильность чрезвычайно хрупкими.



Главная региональная тенденция в области безопасности – милитаризация и рост гонки вооружений. Эта тенденция отражает не только продолжающийся конфликт в Украине, но и глобальный тренд на увеличение расходов на оборону и рост конфликтности в международной политике. Растет также число и масштаб военных учений как в рамках НАТО, так и ОДКБ.

По данным SIPRI, в 2018 году во всем мире на вооружения была потрачена сумма в 1 триллион 822 миллиарда долларов США, что на 2,6 процента больше, чем годом ранее. Рост военных расходов США составил 4,6 процента, что связано со всеобъемлющей программой модернизации армии (общий военный бюджет – 648,8 миллиарда долларов США). КНР занимает второе место в рейтинге с расходами в 250 миллиардов долларов США на вооружение и модернизацию своей армии. Россия в целом завершила свою программу перевооружения, поэтому в 2018 году ее военные расходы несколько снизились по сравнению с предыдущими годами; она оказалась на шестом месте и впервые за 12 лет не входит в топ-5. Но тем не менее ее военные расходы в соотношении с ВВП остаются высокими.

| | Расходы на оборону в % от ВВП, 2017 г. | Расходы на оборону в % от ВВП, 2018 г. |
|---|---|---|
| США | 3,1 | 3,2 |
| Китай | 1,9 | 1,9 |
| Россия | 4,2 | 3,9 |
| Польша | 1,9 | 2,0 |
| Украина | 3,2 | 3,8 |
| Литва | 1,7 | 2,0 |
| Латвия | 1,7 | 2,0 |
| Беларусь | 1,2 | 1,3 |
| Молдова | 0,4 | 0,3 |

*Источник: База данных SIPRI.*

Ряд фактов последних полутора лет позволяет констатировать не только наращивание расходов на оборону в регионе, но и начало региональной гонки вооружений с поступлением в войска новых вооружений и военной техники и развертыванием новых военных частей.

Так, Россия развернула в западных регионах новейшие комплексы РЭБ «Самарканд», значительно увеличила численность ракетного оружия и ударных БПЛА на вооружении в войсках, завершила формирование танкового полка и двух дополнительных авиаполков в Калининградской области. Был развернут новый танковый полк в Смоленской области. Кроме того, объявлено о наращивании сил в Западном военном округе и усилении российской военной группировки в Крыму.

Польша объявила о начале масштабной программы перевооружения своей армии на срок до 2026 года, общая стоимость которой составит 48,8 миллиарда долларов США. Еще ранее Польша закупила у США зенитно-ракетные комплексы Patriot и РСЗО HIMARS (способны использовать заряды с дальностью до 300 километров), обсуждается покупка новейших американских истребителей пятого поколения F-35. В начале текущего года начато формирование 18-й механизированной дивизии польской армии. Достигнуто соглашение с США об увеличении американского военного присутствия на территории Польши.

На вооружение литовской армии поступили самоходные гаубицы PzH2000, Германия приняла решение о новых инвестициях в военную инфраструктуру Литвы и в завершение модернизации полигона в Пабраде. Литовская бригада «Железный волк» была аффилирована с танковой дивизией ФРГ. В Латвии открыта штаб-квартира Многонациональной дивизии НАТО «Север».

Украина провела полноценное развертывание 61-й егерской бригады ВСУ на границе с Беларусью. Инцидент в Азовском море в конце прошлого года и последующее военное положение в Украине еще раз продемонстрировали взрывоопасность ситуации на востоке Европы и хрупкость сложившегося баланса сил.

Эти и многие другие факты заставляют всех, кому дорог мир, не только серьезно задуматься, но и приложить все усилия, чтобы не допустить непоправимое на нашем континенте. Именно в этом направлении и велась вчера дискуссия на форуме «Минский диалог».

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

## Как предотвратить новые и разрешить замороженные конфликты…

*(Из выступления министра иностранных дел Беларуси Владимира Макея).*




– В Беларуси убеждены в том, что возможность взаимного сдерживания через наращивание военных потенциалов – это опасная иллюзия безопасности, которая не единожды в истории приводила к трагедиям.

– Серьезные риски несет сегментирование европейской безопасности по принципу «это не моя проблема». Предпринимаемые шаги по урегулированию конфликтов в большинстве носят не превентивный, а реагирующий характер.

– Беларусь не хочет оказаться на линии цивилизационного разлома, на острие блокового противостояния между Россией, с одной стороны, НАТО – с другой. Белорусы, как никто другой, знают, чем чревато положение «буферной зоны».

– Хорошей подпиткой идеи «Хельсинки-2» может стать выдвинутая Беларусью инициатива по формированию «пояса цифрового добрососедства» – заключение международных соглашений об обеспечении информационной безопасности.

– Нельзя отказаться от РСМД, не вызвав кризис других мер разоружения и военно-политического доверия. Нельзя строить свою «сферу влияния» в ущерб интересам других игроков. Ценности должны завоевывать умы, а не территории.

– Главой Беларуси заявлено, что, несмотря на выход США и России из РСМД, Беларусь как полноправная участница этого договора будет продолжать выполнять его положения. Мы не будем тестировать, производить и размещать ракеты средней и меньшей дальности.

– За Минском все больше закрепляется статус международной диалоговой площадки, на которой идет активный поиск путей разрешения конфликтов.

**ТЫМ ЧАСАМ**

## Ля гатэля «Марыёт» і на плошчы Свабоды




Учора актывісты "Еўрапейскай Беларусі" ладзілі пікет па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў аднаго са сваіх актывістаў. Паралельна яны звярталіся да ўдзельнікаў "Мінскага дыялогу", выказваючы нязгоду з палітыкай дзеючых беларускіх улад і персанальна А.Лукашэнкі.

Пікет быў спецыяльна арганізаваны ля гатэля "Марыёт", дзе праходзіў форум "Мінскі дыялог" па пытаннях еўрапейскай бяспекі.

Некалькі дзясяткаў прыхільнікаў палітыка Мікалая Статкевіча ў нядзелю правялі мітынг "Абаронім Беларусь" на плошчы Свабоды.




**Кастусь ЛАЗАВІК.**

**ЛІЧБЫ**

## Золата прыходзіць і сыходзіць

*Па стане на 1 кастрычніка міжнародныя рэзервовыя актывы Беларусі склалі 8830,9 мільёна долараў ЗША (у эквіваленце), паведамляе прэс-служба Нацыянальнага банка.*

За верасень золатавалютныя рэзервы (ЗВР) знізіліся на 60,1 мільёна долараў ЗША (на 0,7%). Нагадаем, што ў жніўні яны павялічыліся на 263,1 мільёна долараў ЗША (на 3%).

Зніжэнне ЗВР у Нацбанку тлумачаць выплатамі пазык.

Народная Воля http://www.nv-online.info
8 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

# Хітрая скрыня пані Ярмошынай

На гэтых выбарах у Палату прадстаўнікоў улады пераплюнулі самі сябе. Здавалася б, ужо болей, чым раней, дыскрымінаваць апазіцыю пры фарміраванні выбарчых камісій немагчыма. Аказалася, што магчыма. Сярод 63.646 членаў участковых камісій прадстаўнікоў апазіцыйных партый аказалася толькі 21. Апанентаў улады адсеялі больш сурова, чым пры фарміраванні тэрытарыяльных ды акруговых камісій месяцам раней. І ў два-тры разы больш жорстка, чым на парламенцкіх выбарах 2008, 2012 ды 2016 гадоў.

Пры гэтым вертыкаль, фарміруючы ўчастковыя камісіі, прыцэльна выбівала менавіта тых, каго наверсе называюць пятай калонай. Мяркуйце самі.

Усяго апазіцыйныя партыі вылучылі гэтым разам у камісіі нізавога ўзроўню 495 чалавек. З іх прайшло, як няцяжка падлічыць, 4,2%. У тым ліку ад Партыі БНФ, напрыклад, трапіла пяць вылучэнцаў з 201, ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі – чатыры з 174. А з 54 прадстаўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) не пашэнціла ніводнаму. Нарэшце, з 401 прадстаўніка кампаніі назірання «Права выбару» ва ўчастковыя камісіі прайшлі толькі тры.

А зараз параўнайце. З 3884 вылучэнцаў праўладных партый у адпаведныя камісіі ўвайшло, паводле падлікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», 3763 (96,9%). У прыватнасці, ад Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці – 1097 з 1135. Ад шасці найбуйнейшых праўладных грамадскіх структур – «Белай Русі», БРСМ, Беларускага саюза жанчын, Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, Беларускага фонду міру і афіцыйных прафсаюзаў – было вылучана 28.980 чалавек, з іх патрапіла ва ўчастковыя выбаркамы 27.790 (95,9%).

Як бачым, «сваім людзям» амаль пагалоўна – зялёнае святло, «пятай калоне» за рэдкім-рэдкім выключэннем – чырвонае.

Кладучы руку на сэрца, апазіцыя не тое каб так ужо масава штурмавала гэты бастыён. Нават калі б ва ўчастковыя камісіі ўключылі ўсіх яе вылучэнцаў, яны там склалі б долі працэнта. А ўлады між тым маглі б казырнуць перад Захадам і АБСЕ: во які ў нас разгул дэмакратыі!

Але пускаць апанентаў унутр сістэмы, якая забяспечвае «элегантныя» перамогі, вертыкаль упарта не хоча. Пры гэтым старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах Лідзія Ярмошына летась патлумачыла, што пры фарміраванні выбаркамаў ацэньваецца найперш «здольнасць прэтэндэнта працаваць у калектыве», дзе «выпінанне свайго палітычнага меркавання шкодзіць агульнай справе». Карацей, патрэбны такія, каб дзьмулі з ёю ў адну дуду.

Між тым з 2010 года беларускае заканадаўства прадугледжвае, што не менш за трэць у выбаркамах мусяць складаць прадстаўнікі партый ды іншых грамадскіх аб'яднанняў. Гэту квоту ўвялі падчас папярэдняй адлігі ў дачыненнях з Захадам, пад ціскам міжнародных арганізацый.

Але дарэмна наіўныя замежнікі спадзяваліся, што такім чынам пашэнціць павысіць празрыстасць выбараў. Беларуская вертыкаль усё спрытна перайначыла на свой капыл. Як бачым, тую квоту выконваюць і перавыконваюць за кошт абсалютна лаяльных структур. Уключна з партыямі-фантомамі, якія між выбарчымі кампаніямі зусім не «адсвечваюць». Апазіцыянераў жа з кожным разам прапускаюць праз усё больш бязлітасны фільтр.

Плюс Ярмошына заявіла на прэс-канферэнцыі ў верасні, што і на цяперашніх парламенцкіх выбарах пры падліку галасоў на ўчастках кожны бюлетэнь назіральнікам паказваць не будуць. Для гэтага нібыта трэба мяняць закон. Хоць незалежныя эксперты сцвярджаюць: закон тут ні пры чым, дастаткова палітычнай волі ды пастановы самога Цэнтрвыбаркама. І сапраўды, дазволена ўсё, што не забаронена. А хіба Выбарчы кодэкс забараняе паказваць бюлетэні – так, як гэта робяць у дэмакратычных (і нават многіх не вельмі дэмакратычных) краінах?

Аднак Ярмошына разам з усёй вертыкаллю стаіць насмерць. І гэта згушчае падазрэнні: мабыць, ім ёсць што хаваць, утойваць ад назіральнікаў і апанентаў, ад пільнага вока тых, хто, па версіі Ярмошынай, не ўмее працаваць у калектыве. Але тут варта зрабіць удакладненне: той жа Ярмошынай, як і вертыкалі, мяркуючы па ўсім, патрэбны здольныя працаваць у выбаркамах паводле прынцыпу «шыта-крыта».

А як жа гульня з Захадам? Важныя амерыканцы, што прылятаі нядаўна ў Мінск, празрыста намякалі тутэйшым шышкам: хочаце, каб мы знялі санкцыі, дык пакажыце нейкі прагрэс на выбарах. І ўлады, магчыма, адшкадуюць у новым скліканні некалькі мандатаў для асоб, якіх, з аднаго боку, можна прылічыць да іншадумцаў, з іншага – трымаць на кручку. Адпаведны кастынг, напэўна, ужо праведзены. Хаця не выключана, што ў апошні момант спрацуе засцярога – і Палату зробяць стэрыльнай, як у «найлепшыя» часы.

Ва ўсякім разе пакуль што кампанія ідзе ў «класічным» стылі. Апазіцыі ў камісіях практычна няма, паказу бюлетэняў няма. Адкуль бярэцца вынік – халера яго ведае. Дык гэта выбары ці хітрая скрыня фокусніка? Выглядае на тое, што нам зноў пакажуць шоу спрытныя ілюзіяністы.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Дух Тызенгаўза ў Каралінскім фальварку

*Гродзенскі мастак, аматар гісторыі, чалавек з залатымі рукамі **Сяргей РЫБАК** (на фота справа) стварае побач з абласным цэнтрам музей з атмасферай часоў Антонія Тызенгаўза, найбольш вядомага і эфектыўнага рэфарматара, які некалі жыў на гэтых землях.*

Імя гродзенскага старасты Антонія Тызенгаўза, які ў другой палове XVIII стагоддзя правёў значныя і паспяховыя эканамічныя рэформы на землях Гродзеншчыны, сёння вядома нават школьнікам. Праўда, памяць аб гэтым цікавейшым чалавеку ўвекавечана даволі сціпла: ёсць невялікая плошча ў гістарычнай частцы абласнога цэнтра, якая, дарэчы, будавалася пры ім. Яшчэ ў царскія часы ўдзячныя нашчадкі паставілі яму помнік у Фарным касцёле, што з'яўляецца незвычайнай рэдкасцю для храмаў.



Больш за дзесяць гадоў таму мясцовы прадпрымальны доктар **Павел Клімук** наважыўся ўзяць ва ўласнасць адзін з разбураных маёнткаў часоў Тызенгаўза ў вёсцы Караліно Гродзенскага раёна, з тым каб аднавіць яго. Гэты маёнтак у 80-я гады XVIII стагоддзя Тызенгаўз стварыў, так бы мовіць, у эксперыментальных мэтах: як узорна-паказальную гаспадарку для вырошчвання сельгаспрадукцыі ў прамысловых аб'ёмах.



Рэформы ў сельскай гаспадарцы сведчылі пра правільна абраны шлях, але ж гісторыя спыніла іх: адбыліся тры падзелы Рэчы Паспалітай, і беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Далей – сусветныя войны, калектывізацыя, савецкая ўлада, калгасы... І на гэтым месцы напрыканцы XX стагоддзя засталіся толькі муры.

Тое, як аднавіў Павел Клімук былы маёнтак Караліно, уразіць сёння кожнага, хто сюды трапіць: жылыя дамы, свірны, стайні, млын – усё гэта з камення, брукаваныя дарожкі, каваная агароджа і вароты, лазня, ставы з рыбай... Каб падтрымліваць усю гэтую прыгажосць, маёнтак выкарыстоўваецца ў камерцыйных мэтах: гродзенцы любяць адзначаць тут значныя даты свайго жыцця – ладзяць банкеты, святкуюць юбілеі і вяселлі.

Сельскагаспадарчых рэформаў, як некалі рабіў Тызенгаўз, тут не праводзяць, – зямля адышла сельгаскааператыву. Праўда, арганізоўваюцца культурныя мерапрыемствы: мастакі аблюбавалі гэта месца для пленэраў. У адрэстаўраваных памяшканнях былых свірнаў ладзяцца канцэрты.

## Фальварак на гістарычным фундаменце

Тое, што спадар Рыбак з дапамогай іншых супрацоўнікаў фальварка зрабіў за шэсць гадоў, здзіўляе. Ён кажа, што такія задачы перад ім ставіў гаспадар Караліно, які таксама апантаны рэалізацыяй ідэі.

– Калі людзі прыносілі зламаныя экспанаты з навакольных вёсак, я думаў: тут працы рэстаўратару на ўсё жыццё! – згадвае Сяргей. – Я заўсёды баяўся таго размаху, які прапаноўваў Павел Альбінавіч. Але зразумеў, што, пераадольваючы цяжкасці, раблюся мацнейшым.

Мастак дадае, што ў цяперашнім фальварку ўсё застаецца ў традыцыях Тызенгаўза: трэба працаваць хутка, дакладна і прыкладваць максімальныя намаганні.



## Музей у свірне

Сяргей Рыбак у фальварку ў Караліно лічыцца звычайным рабочым. Па прызванні – мастак. А яшчэ ў яго залатыя рукі: можа зрабіць што заўгодна. Некалі працаваў мастаком-афарміцелем у гісторыка-археалагічным музеі, любіць і ведае гісторыю свайго горада. Усе малюнкі на будынках фальварка – гэта яго рук справа. Але самае галоўнае – наперадзе.

Аднойчы, ужо больш за шэсць гадоў таму, гаспадар фальварка спадар Клімук папрасіў Сяргея падумаць над стварэннем музея з разлікам на тое, што сюды будуць прыязджаць турысты і ім трэба нешта паказваць і расказваць.

– Мая музейная канцэпцыя ад пачатку будавалася на тым, каб распавесці пра гэта канкрэтнае месца і эпоху Тызенгаўза, – згадвае мастак. – Цяжка знайсці ў гісторыі Гродна асобу, якая столькі стварыла б для нашага горада, і наш абавязак пра ўсё гэта распавядаць у гэтым маёнтку.

Сяргей адчыняе шырокія дзверы былога свірна. Гляджу: у пакоі ў выгодных фатэлях сядзяць Аўгуст Панятоўскі, імператрыца Екацярына, а за працоўным сталом схіліўся над паперамі сам Тызенгаўз. На сценах экспанаты: пераважна дакументы часоў Тызенгаўза, карты, здымкі, якія сведчаць, як у розныя часы выглядаў фальварак. Па перыметры мэбля, зробленая рукамі спадара Рыбака і стылізаваная пад XVIII стагоддзе.

– Не скажу, што надта часта ў фальварак прыязджаюць экскурсіі, але я пераканаўся, што многія з наведвальнікаў, бывае, увогуле не знаёмы з гісторыяй Гродна, – распавядае Сяргей. – Таму ў першым пакоі я зрабіў невялікі стэнд, на якім адлюстраваны асноўныя этапы гродзенскай гісторыі, каб потым было зразумела значэнне асобы Антонія Тызенгаўза і яго дзейнасці.

Гід канстатуе, што ягоная экскурсія разлічана на дзве з паловай гадзіны і ўвесь гэты час ён вымушаны гаварыць, каб выдаць усю падрыхтаваную інфармацыю. Яму вельмі карціць, каб фальварак выкарыстоўваўся не толькі ў камерцыйных мэтах, а для таго, каб чалавек мог уявіць сябе ў эпоху Тызенгаўза.

– Выкарыстоўваць фальварак толькі ў камерцыйных мэтах як звычайны банкетны зал альбо рэстаран было ад пачатку нецікава і гаспадару, – кажа Рыбак. – Гэта ж гістарычнае месца, і вельмі хацелася б, каб нашы наведвальнікі разумелі, дзе яны знаходзяцца. Мы ж усе, урэшце, павінны акультурвацца.

Сяргей Рыбак сам распрацаваў канцэпцыю музея і практычна ўсё ў ім рабіў сваімі рукамі. Але мноства экспанатаў бытавога прызначэння, якія выкарыстоўваліся ў тым ліку і ў часы Тызенгаўза, работнікі фальварка назбіралі ў навакольных вёсках.

– Я толькі даводзіў іх да ладу, чысціў, рамантаваў. Практычна ўсе яны функцыянальныя, нават гэты ткацкі станок у руках спецыяліста адразу запрацуе, – гаворыць Сяргей. – А вось, да прыкладу, карту гродзенскіх зямель 1781 года, якую зрабіў на заказ Тызенгаўза вядомы картограф Маркевіч, удалося пераняць з арыгінала, які знаходзіцца ў Варшаве.

У зале, дзе месціцца карцінная галерэя, стаіць старое піяніна нямецкай фірмы Robert Westphal. Сяргей паказвае, што толькі на вонкавых сценках 128 заплатак, якія воку неспецыяліста амаль не бачны. Інструмент тутэйшы майстар цалкам перабраў, перанастроіў, гук – непаўторны.

– Канешне, мы не маем столькі сродкаў, каб набываць экспанаты эпохі Тызенгаўза, – кажа мастак. – Усё пераважна робіцца сваімі рукамі альбо рамантуецца, як гэта піяніна.

А на другім паверсе зусім нечаканыя экспанаты: тры хаткі. Беларуская, польская і яўрэйская. Такія наглядныя ўзоры быту, традыцый людзей у часы Тызенгаўза: увесь інтэр'ер з печкамі, мэбляй, посудам і нават месцам для жывёлы. Сяргей Рыбак каментуе: гэта сведчанне таго, як у шматнацыянальным Гродне мірна жылі людзі самых розных нацыянальнасцяў.

– У мяне заўсёды было жаданне стварыць такі музей, дзе наведвальнікі маглі б браць экспанаты ў рукі, спрабаваць імі карыстацца, – кажа мастак. – І вось тут я сваю ідэю практычна здзейсніў. Ну вось, прапаную падняць адной рукой патэльню, якая выкарыстоўвалася ў кляштары францысканцаў у Гродне. Наўрад ці гэта ў каго атрымаецца, а некалі ў ёй гатавалі ежу на цэлае брацтва.

– У нас праца пачынаецца а 8-й раніцы, і толькі а 18-й можна пакласці свой інструмент, – канстатуе Рыбак.

Сяргей лічыць, што ягонае жыццё ўдалося.

– Часам варта слухаць сваё сэрца і не думаць пра грошы, – пераканаы мой суразмоўца. – Калі чалавек, які стварае мастацтва, думае пра грошы, то ў яго нічога не атрымаецца. Гэту працу варта ўспрымаць як служэнне. Я выдатна разумею, колькі каштуе наша праца па сусветных цэнах. Ясна, што я гэтага тут не атрымліваю, але калі чалавек займаецца сваёй справай, то яму ад гэтага добра на душы.

– У нас неяк была экскурсія з Санкт-Пецярбурга, і, пабачыўшы наш фальварак, людзі былі вельмі ўражаны, – кажа Сяргей Рыбак. – Іх здзівіла не толькі тое, што ўсё тут адноўлена на еўрапейскім узроўні, але і тое, што гэта зроблена, як яны сказалі, на гістарычным фундаменце.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На фота: у фальварку Караліно.**

*Гродзенскі раён.*

ПАМЯЦЬ

## Новыя сведчанні пра Курапаты

У сталічным выдавецтве Змітра Коласа выйшла ў свет кніга Марата Гаравога “НКВД забіваў у Курапатах...”. У ёй апісваецца гісторыя і сённяшні дзень урочышча Курапаты, дзе з 1932-га па 1941 год адбываліся расстрэлы ахвяр сталінскай улады. М.Гаравы паспеў запісаць сведчанні відавочцаў, а таксама расказаў пра роднага дзядзьку, які быў рэпрэсаваны і двойчы арыштоўваўся.

Дзякуючы аўтару кнігі, у Курапатах паўстаў Яўрэйскі камень – міжканфесійны знак памяці, выраблены з пастамента помніка Сталіну.

У апошняе дзесяцігоддзе М.Гаравы стаў сапраўдным летапісцам падзей, якія адбываліся вакол Народнага мемарыяла. Кніга багата ілюстравана архіўнымі фотаздымкамі.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

СЛЫШАЛИ?

## Контролеры смогут входить в общественный транспорт не только на остановках

С 8 октября контролеры смогут останавливать транспорт для проверки оплаты проезда между остановками. Об этом корреспонденту агентства «Минск-Новости» сообщил директор филиала «Агентство Минсктранс» Сергей Ласицкий.

Для начала такое новшество введут на автобусах, а чтобы их остановить в пути, работники контрольно-ревизорской службы должны будут поднять сигнальный диск. Водители знакомы с этим атрибутом. Чтобы остановить транспортное средство, его применяют также сотрудники транспортной инспекции.

Суть нововведения проста: часто безбилетники высматривают контролеров на остановках и, увидев их, спешно покидают транспортное средство. Для некоторых пассажиров это стало своего рода игрой в «кошки-мышки». Если они будут знать, что контроль возможен и в пути, подобных ситуаций может стать меньше.

КАДРЫ

## Хто ў Федэрацыі бокса замяніў Дзмітрыя Ціхамолава?

Былы кіраўнік федэрацыі зараз адбывае пакаранне.

Дзмітрый Ціхамолаў боксам стаў займацца ў 16 гадоў у Смаленску. У Мінск пераехаў у 1971 годзе па запрашэнні вядомага трэнера Станіслава Гурскага. Нягледзячы на ўпэўненыя выступленні на ўсесаюзных спаборніцтвах, паўдзельнічаць у чэмпіянатах свету або Еўропы баксёру-цяжкавагавіку так і не давялося. Тым не менш у складзе зборнай Савецкага Саюза ён тройчы (!) удзельнічаў у матчавых сустрэчах СССР–ЗША і не аднойчы выйграваў.

У апошнія гады Дзмітрый Ціхамолаў займаўся прадпрымальніцтвам паралельна з работай у Федэрацыі бокса, уваходзіў у савет Беларускага грамадскага аб'яднання прафесійнага бокса. З 2010-га ўзначальваў федэрацыю.

Але ў снежні мінулага года Дзмітрый Паўлавіч, што называецца, знік з радараў. У кампаніі, у якой Ціхамолаў быў генеральным дырэктарам, абвяргалі інфармацыю пра затрыманне і нават пагражалі судовымі разборкамі, калі надрукуем *«няпэўную інфармацыю»*. Тлумачылі адсутнасць свайго начальніка ў публічнай прасторы прыкладна так: *«паехаў на лячэнне за мяжу»*, *«знаходзіцца ў працяглай камандзіроўцы»*. Але людзі са спартыўнага атачэння пацвярджалі, што ўсё-такі Ціхамолаў затрыманы.

І толькі летам гэтага года было афіцыйна аб'яўлена: Дзмітрый Ціхамолаў асуджаны Вярхоўным судом да 2 гадоў пазбаўлення волі па ч.2 артыкула 431 за дачу хабару.

Зараз на сайце Федэрацыі бокса Дзмітрый Паўлавіч па-ранейшаму значыцца як яе старшыня, хаця насамрэч сітуацыя выглядае крыху інакш.

*«Пакуль абавязкі старшыні федэрацыі выконвае намеснік міністра спорту Аляксандр Баравуля*, – паведамілі мне ў арганізацыі. – *Мяркую, да канца гэтага года будзе праведзена канферэнцыя, на якой і вызначымся з кіраўніком».*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

*Главному редактору газеты «Народная Воля» Середичу И.П.*

*Уважаемый Иосиф Павлович!*

*Современное человечество испытывает не лучшие времена в своем развитии. Все больше появляется фактов, подтверждающих падение нравов многих народов.*

*Не все хорошо и в нашем королевстве. В обществе продолжаются процессы духовно-нравственного разложения людей.*

*Говорят, что красота и доброта спасут мир. Да, это так, но нужно помнить, что законы, лишенные нравственности, становятся несправедливыми, а ум пагубен для человека, и добро без великой достойной цели также опасно и вредно для него.*

*Мы должны всеми способами и средствами убеждать молодежь в том, что она может достичь своего счастья, успехов, достойной жизни, развить свои природные задатки, способности и таланты, избавиться от греховности, пороков и вредных привычек только в атмосфере нравственности. И мы, люди старшего поколения, обязаны вывести нашу молодежь на путь духовно-нравственного возрождения. В этом наше спасение, ковчег среди потопа.*

*Человечество должно быть очеловечено.*

*Предлагаю для публикации статью, в которой я изложил один из возможных вариантов формирования высокоинтеллектуальной, высококультурной, гармонически развитой личности. Полагаю, что читатели внесут свои предложения в это благородное дело.*

С уважением – И.М.ДРИГАЙЛОВСКИЙ.

*Согласитесь, после таких слов хочется скорее прочитать статью, написанную уважаемым автором. Кстати, это уже, как многие, пожалуй, заметили, не первая публикация известного ветерана педагогического труда Ивана Марковича Дригайловского на страницах «Народной Воли».*

# Каким должен быть выпускник средней школы?

Вначале чуть-чуть об истории вопроса.

Американский философ и поэт XIX века Ралф Уолдо Эмерсон (1803–1882) утверждал: «Истинный показатель цивилизации – не уровень богатства и образования, не величина городов, не обилие урожаев, а облик человека, воспитываемого страной».

В Советском Союзе была создана уникальная система формирования гармонически развитой личности. После развала Союза эти наработки были утеряны, а взамен ничего равнозначного до сих пор не создано. Хотя, казалось бы, цель нашего современного образования, культуры – сформировать высокообразованную, высококультурную, духовно-нравственную личность.

Для того чтобы сформировать такую личность, нужно, по совету многих философов, мудрецов, ученых, государственных и общественных деятелей, обратить особое внимание на развитие разума, воли и чувств у представителей подрастающего поколения, а также стремиться к совершенствованию добродетелей. Вот формула формирования гармоничной личности.

Французский писатель Р.Ларошфуко (1613–1680) говорил: «Ясный разум дает душе то, что здоровье – телу». Английский поэт П.Шелли (1792–1822) утверждал: «Разум представляет собой сумму лучших чувств». Русский публицист и общественный деятель Н.В.Шелгунов подчеркивал: «Чувства – цвет мысли. Без них наши мысли – сухие, безжизненные контуры, но не картины». Древнегреческий философ Платон (427–347 гг. до н.э.) говорил: «Воля – целеустремленность, соединенная с правильным рассуждением». А по словам немецкого философа-материалиста Л.Фейербаха (1804–1872): «Воля – это стремление к счастью». Вот что утверждал французский писатель О. де Бальзак: «Воля – это ежеминутно одерживаемая победа над инстинктами, над влечениями, над препятствиями и преградами, над всякими трудностями». Великий древнекитайский мыслитель Конфуций (ок. 551–479 гг. до н.э.) с глубокой прозорливостью утверждал: «Чтобы достигнуть нравственного совершенства, нужно прежде всего заботиться о душевной чистоте. А душевная чистота достигается только в том случае, когда сердце ищет правды, и воля стремится к святости. Но всё это зависит от истинного знания».

А у нас до сих пор общеобразовательной школе не поступил от государства заказ: каким же должен быть выпускник средней школы, какими качествами должен быть наделен. Вот в чем наша беда!

Патриарх Московский и всея Руси Кирилл в своей книге «Патриарх и молодежь» пишет: «Сегодня нравственный аргумент должен стать главным в нашем диалоге с обществом и молодежью… Если нравственность уходит из жизни общества, то оно превращается в волчью стаю, в банку со скорпионами. И людям ничто не препятствует в уничтожении друг друга. Никакие юридические законы не возместят утраты обществом и человеком нравственного начала… Я глубоко убежден, что одной из основных причин распада Римской империи и гибели древнегреческой цивилизации было состояние нравов в Риме. Отсутствие нравственного начала погубило величайшую империю всех времен и народов. Римляне совершили величайший цивилизационный прорыв не только для себя, но и для человечества, для последующих эпох. Но сам Рим не устоял. И рухнул. И произошло это только потому, что прогнил человек. Ибо испорченные люди не способны поддерживать существование здоровой общественной структуры».

### Социальный портрет молодого современника

И ныне в современном мире появляется всё больше кричащих фактов, подтверждающих нравственное падение и вырождение человечества. Человек становится могильщиком своей цивилизации. Не всё хорошо и в нашем королевстве. Судите сами.

Ранее мы говорили, что семья – это шедевр природы, кристалл общества. Нас убеждали: крепкая семья – могущественное государство. Ныне институт брака разрушается. На протяжении многих лет Беларусь прочно занимает второе место в мире по числу разводов, уступая пальму первенства лишь России. В 2016 году у нас было зарегистрировано 64.536 браков, разводов – 32.623; в 2017-м – соответственно 66.215 и 32.006; в 2018-м – 60.714 и 33.152. По официальным данным, на 1 января 2018 года состояли на учете 8025 пациентов с синдромом зависимости от наркотических средств и 5061 человек, употребляющий наркотики с вредными последствиями. По словам начальника главного управления по наркоконтролю и торговле людьми МВД Геннадия Казакевича, в последнее время хоть и сокращается количество преступлений, связанных с наркотиками, но проблема остается острой. Ныне **реальное** количество наркоманов в Беларуси где-то 88,5 тысячи человек, в колониях из-за наркотиков сидят почти шесть тысяч. Согласно данным агентства БЕЛТА, в Беларуси с синдромом зависимости от алкоголя в 2018 году состояло на учете 163 тысячи человек. Ныне, по словам заведующего Республиканским центром наркологического мониторинга и превентологии РНПЦ психического здоровья Алексея Кралько, на диспансерном учете состоит около 158 человек, 95 тысяч находятся под наблюдением. В 2018 году от алкогольных отравлений умерли 1476 человек. Согласно данным об эпидемиологической ситуации по ВИЧ-инфекции, в Республике Беларусь на 1 января текущего года выявлено 29.979 случаев заболевания СПИДом, 20.953 человека – носители инфекции.

Посредственность, как ржавчина, разъедает все слои нашего общества. Оно заражено бациллами эгоизма, накопительства, стяжательства. Наше общество пронизано коррупцией сверху донизу. Ежегодно растет число коррупционных преступлений (читай «Народную Волю» за 23 июля 2019 г. – «20 коррупционных приговоров»). И это только за полгода. Как видим, наше общество нуждается в духовно-нравственном оздоровлении. Требуются эффективные и неординарные методы борьбы с этими общественными болезнями. Нужно сделать всё, чтобы вырвать наших людей, особенно молодежь, из плена всяческих пороков. Полагаю, что следует последовательно, настойчиво и целеустремленно убеждать молодых людей в том, что счастья можно достичь только в условиях нравственной жизни. Вспомним слова греческого философа-энциклопедиста Аристотеля: «Нравственно прекрасным называют человека совершенного достоинства. Ведь о нравственной красоте говорят по поводу добродетели: нравственно прекрасным зовут справедливого, мужественного, благоразумного и вообще обладающего всеми добродетелями».

Жизнь, как известно, это борьба: борьба человека за правду, справедливость, за свои права, за свободу и независимость, за достойную жизнь… Что же является мерилом этой борьбы? Немецкий философ И.Кант говорил: «Закон, живущий в нас, называется совестью. Совесть есть, собственно, применение наших поступков к этому закону». И далее: «Две вещи наполняют душу всё новым и всё более сильным удивлением, чем чаще и продолжительнее мы размышляем о них, – это звездное небо надо мной и моральный кодекс во мне». То есть наша совесть – это наше нравственное начало. Оно заложено в каждом из нас с рождения. Совесть – это тот компас, который точно указывает человеку, куда нужно идти. По мнению философов, это чувство – объективная истина. Некоторые ученые говорят нам, что «нравственность – это нечто приобретенное и на формирование ее влияют внешние силы, культура, образование, климат, география, социальное положение. Совесть является продуктом общественного формирования…» Это ошибочная точка зрения!

Нравственное чувство, по мнению многих философов и мудрецов, легко доказывается тезисом: где бы ни жил человек, как бы ни воспитывался – всегда грех отражается в сердце человека болью. Эта боль есть голос его совести. Когда мы поступаем дурно, то чувствуем внутренний дискомфорт. И если нам сегодня говорят, что совесть в Папуа–Новой Гвинее не такая, как во Владивостоке, – это не просто ошибка, это опасное учение, которое предполагает относительность нравственного чувства. Недаром в народе говорят: «Совесть – она и в Африке совесть». Фундаментальные нравственные ценности едины для всех.

### Вызовы нового времени

Мы живем в эпоху информационного взрыва. Ныне поток информации лавиной обрушивается на человека. По мнению специалистов, он в течение полутора-двух лет удваивается. Встает вопрос: что нужно сделать, чтобы этот поток не смог смести человека, разрушить его самобытность и подлинность – духовную, культурную, национальную?

Специалисты утверждают: важно выстроить систему отсева информации, ставить перед собой некий фильтр, который поможет человеку не просто отбрасывать лишнее, но и критически воспринимать всё, что на него обрушивается. Но, чтобы иметь такой критерий внутри себя, нужно иметь кроме нравственного начала некую норму, систему мировоззренческих идей, объективных ценностей. Чтобы не потеряться в информационном поле, в безбрежном потоке, мы должны сохранить и воспитать в себе единственно объективный критерий, который существует вне времени и пространства, который один и тот же в России и Беларуси, в любой стране мира.

Откуда же взяться этим ценностям? Они находятся в наших народных традициях, преданиях и мифах. Традиция, как известно, не призвана сохранять всё из прошлого. Подлинная традиция сохраняет только ценное и полезное. Для этого очень важно воспитывать свой ум. Образование и есть воспитание ума, воли и чувств. Если сознание неправильно сформировано и воспитано, может разрушиться нравственное начало. Когда человек способен отбирать информацию, критически оценивать всё, что происходит вокруг него, тогда он уверенно идет к своей мечте и реализует то, что называется счастьем.

Как формировать ум?

Ум можно упражнять. В.А.Сухомлинский утверждал: «Как гимнастика выпрямляет тело, так музыка выпрямляет душу». Английский философ и экономист Д.Юм (1711–1776) говорил: «Силу уму придают упражнения, а не покой». М.Горький советовал: «Ум имей и хоть маленький, да свой». Высокие умы, лишенные нравственности, вредны и опасны для человечества. Древнегреческий философ Плутарх: «Два основных достояния человеческой природы – это ум и рассуждение». Для развития ума также полезно читать, учить наизусть стихи, писать творческие работы, принимать участие в интеллектуальных играх и многое другое.

А теперь остановимся на очень важном вопросе – формирование личности и формирование ценностей.

### Что делать?

Есть такие понятия: «базисная культура» и «субкультура». Нам нужно научиться методологически отличать одну от другой. Существует также молодежная культура. Она очень привлекательна для молодых людей. Это особый покрой одежды, манера поведения, речи, способ проводить свободное время. Но если молодой человек вращается только в этой субкультуре и живет только в ней, у него может произойти смещение понятий. Эту культуру он начинает воспринимать как базисную, а все остальное – как пережитки прошлого или нечто чуждое.

Человеческая цивилизация, живущая по закону инстинкта, нежизнеспособна. Никакая культура, никакое мощное правовое и развитое законодательство не способны регулировать наше поведение ежечасно – на это способен лишь голос совести. Когда нам говорят «живи как хочешь, только других не обижай» (такова сегодня философия современного либерализма), нас тем самым подталкивают к жизни по закону инстинкта. Именно поэтому в современной либеральной философии отсутствует понятие греха, есть лишь плюрализм поведенческой модели. Нравственность не более чем условное понятие: это нравственно для тебя, но безнравственно для меня. Во многих странах, к сожалению, и в России с Беларусью, также господствует субкультура.

До революции 1917 года была попытка сформировать в России базисную культуру на основе культуры классической. Базисным образованием была классическая гимназия с изучением латыни, древнегреческого языка, античной культуры. Из латинского языка вышли все романские языки. В основе многих архитектурных стилей лежат принципы, заложенные античным искусством. Ныне нам, формируя собственную базисную культуру, нужно внести коррективы в эту идею. **Нам следует овладеть базисной культурой, связанной с историей нашего народа.** Это то, что является базисом для нас. Почему? Потому что в базисной культуре заложена система ценностей. К базисной культуре относятся язык и литература. Та литература, которую мы называем классической: Павел Шпилевский, Евдоким Романов, Евфимий Карский, Янка Купала, Якуб Колас, Максим Богданович, Максим Танк, Василь Быков и другие. К базисной культуре относятся история белорусского государства, история культуры, образования и религии.

Тогда сильной будет личность, сильными будут общество и государство. Мы не потеряемся тогда на перепутьях и развилках глобализации, не превратимся в Иванов, не помнящих родства. Подчеркивая великую значимость нравственности в жизни молодых людей, Патриарх Кирилл говорил: «Чем раньше человечество поймет, что нравственность – это способ выживания коллектива, семьи, личности, общества, всей человеческой цивилизации, тем лучше. Если поймет это наша молодежь – мы будем самыми сильными, потому что сила наша в силе духа».

Нам нужно вывести молодежь страны на путь духовно-нравственного возрождения, нравственного совершенствования, саморазвития природных задатков, способностей и талантов. А государство должно создать для этого оптимальные условия. Необходимо интегрировать все силы страны, общества, науки, педагогики, образования, культуры, спорта, медицины, общественных, молодежных и профсоюзных организаций, семьи, церкви для гармоничного воспитания подрастающего поколения. Да поможет нам в этом твердость духа, благоразумие и сильное желание видеть нашу страну духовно возрождающейся, а наших воспитанников – высокообразованными, высококультурными, духовно-нравственными патриотами своего Отечества, творцами и созидателями новой жизни, людьми с чистой совестью, емким сердцем и благородной душой.

**Иван ДРИГАЙЛОВСКИЙ, ветеран педагогического труда.**
*Брест.*

## ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# Анатолию Алаю дали приз

*В Минске завершил свою работу Фестиваль документального кино стран СНГ «Евразия. DOC 2019».*




**На снимках: Диплом «За выдающийся вклад в документальное кино». Вручение диплома и приза А.И.Алаю.**




Из двухсот работ, представленных авторами для участия в кинофестивале, было отобрано 28 картин режиссеров из 12 стран: Соединенных Штатов Америки, России, Беларуси, Грузии, Казахстана, Армении, Эстонии и других.

Семь лент признаны победителями. Среди них фильм заслуженного деятеля искусств Республики Беларусь, народного артиста Беларуси Анатолия Алая «Доктор Шуба». Ему вручен диплом и специальный приз «За выдающийся вклад в документальное кино».

## РЕГИОН

### Житель Мстиславля лежал ночью на дороге

Хорошо, что такая «постель» обернулась для него только больничной койкой.

Ночью минувшего воскресенья 43-летний житель города Мстиславля (Могилевская область) улегся спать прямо на проезжей части одной из улиц этого районного центра. Как говорится, ноги до дома не довели – столько выпил. В результате на него наехал автомобиль «Ауди-80». Мужчину с многочисленными травмами отвезли в больницу. В настоящее время по факту этого ДТП проводится проверка. Как сообщило ОАиП ГАИ Могилевского УВД, лежащие пьяные пешеходы все чаще становятся участниками дорожно-транспортных происшествий.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

## ЗА РУЛЕМ

### Водитель «Форда» погиб на месте ДТП

Серьезная авария с печальными последствиями произошла на выезде из Минска 7 октября в 10 часов 45 минут.

По предварительной информации, водитель автомобиля «Форд» при развороте на встречную полосу столкнулся с ехавшим по встречной полосе микроавтобусом «Мерседес». «Форд» развернуло от удара, и он столкнулся еще с одним «Мерседесом», отчего последний также развернуло и произошло его столкновение с автомобилем «Мазда».

Для водителя «Форда» это ДТП стало смертельным. Он погиб на месте. Пассажира, который находился в «Форде», пришлось госпитализировать. С травмами отвезли в больницу и водителя с пассажиром легкового «Мерседеса». Женщина, которая управляла «Маздой», не пострадала.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

## ГУЧНАЯ СПРАВА

### Экс-намесніка міністра абвінавачваюць яшчэ і ў махлярстве

У судзе Савецкага раёна Мінска працягваецца працэс па справе экс-намесніка міністра аховы здароўя, былога гендырэктара кіруючай кампаніі холдынга «Белфармпром» **Валерыя Шаўчука.**

У працэсе абвешчаны чарговы перапынак, амаль на тыдзень. Справа ў тым, што Валерый Шаўчук, выслухаўшы абвінавачванне, заявіў, што яму неабходны час, каб яго абдумаць.

Першапачаткова, калі справа паступіла ў суд, Шаўчуку было прад'яўлена абвінавачванне па ч.3 арт.430 (атрыманне хабару паўторна або ў буйным памеры). Разам з Шаўчуком на лаве падсудных – заснавальнік ПТУП «Ледафармед» **Алег Галавач.** Ён не затрыманы, знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе і падтрымлівае кіравацы сваёй кампаніяй. Менавіта Галавач – адзін з хабарадавальнікаў па справе Шаўчука. Яго абвінавачваюць у тым, што ў кастрычніку 2016 года для таго, каб у яго ліцэнзію на права ажыццяўлення фармацэўтычнай дзейнасці унеслі дапаўненні, ён купіў і прывёз Шаўчуку на лецішча мэблю на 2748 рублёў: вітрыны, шафу, камод.

Яшчэ адзін хабар, як вынікае з абвінавачвання, Шаўчук восенню 2016 года атрымаў ад кіраўніка прадстаўніцтва французскай кампаніі «Recordati» ў Беларусі **Ларысы Рубцовай** – настольны набор з мармуру для канцылярскіх прылад і 2000 долараў ЗША за выдачу ліцэнзіі кампаніі яе мужа «Стымэнерджы» на права ажыццяўлення фармацэўтычнай дзейнасці.

Ужо калі судовы працэс распачаўся, пракурор прад'явіў Валерыю Шаўчуку абвінавачанне па яшчэ адным артыкуле – махлярства. З матэрыялаў справы вынікае, што ў студзені-лютым 2015 года, знаходзячыся ў службовым кабінеце ў Міністэрстве аховы здароўя, ён пад выглядам хабару прыняў ад усё той жа Рубцовай тэлефон IPhone 5 коштам 720 рублёў, хаця ўсведамляў, што вырашэнне пытання Рубцовай не адносіцца да яго кампетэнцыі. Такім жа чынам, лічыць абвінавачанне, Шаўчук атрымаў ад Рубцовай скураны партфель коштам 391 рубель. Як адзначыў дзяржаўны абвінаваўца, гэтыя дзеянні кваліфікуюцца па чч.1,2 арт.209 КК (махлярства, здзейсненае паўторна).

Як вядома, затрымалі Валерыя Шаўчука ў сакавіку 2019 года, з таго часу ён знаходзіцца пад вартай.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЭКСКЛЮЗІЎ

# «Ішоў на рызыку, не думаючы пра наступствы»

## Вясковы сірата, які пачынаў аднаасобнікам, а стаў Героем Сацыялістычнай Працы


Герой Сацыялістычнай Працы Уладзімір Калачык у сваім кабінеце, 1966.

### Гаспадар сіроцкай сям'і

Пры сваіх заслугах Уладзімір Калачык мог бы жыць у сталіцы не толькі Беларусі, а і былога СССР. Аднак не паквапіўся на вялікія гарады і пасля выхаду на пенсію назаўсёды звязаў свой лёс з роднымі мясцінамі. Стандартны цагляны дом у вёсцы Заскавічы, цэнтры калгаса «Светлы шлях», быў пабудаваны яшчэ за часамі ягонага старшынёўства.

У некалі энергічнага мужчыны за апошнія два гады фактычна аднялася правая рука, ногі амаль не трымаюць, цела аблеплена датчыкамі кантролю. Праблемы са зрокам не дазваляюць чытаць, глядзець тэлевізар. Апошнія навіны даведваецца з радыё ды ад родных. Але свой фізічны стан успрымае па-філасофску: маўляў, пашчасціла, што наогул яшчэ на гэтым свеце. Усё ж неўзабаве справіць 90-годдзе.

Зрэшты, у працэсе размовы высветлілася галоўнае: Уладзімір Міхайлавіч цудоўна памятае ўсе эпізоды свайго пакручастага лёсу...

Ён нарадзіўся 24 чэрвеня 1930 года ў вёсцы Мароські ў складзе Віленскага ваяводства Польшчы ў сям'і сялян-сераднякоў. Бацькі – людзі працавітыя, набожныя. Ад хвароб і фізічных нагрузак памерлі зусім маладымі: мамы не стала пад канец вайны ў 37 гадоў, тата ў 39 сышоў амаль следам. У 1948-м на руках 18-гадовага Валодзі засталіся два малодшыя браты і сястрычка. Так ён стаў гаспадаром у сіроцкай сям'і.

Нейкі час пасля ўсталявання на заходнебеларускіх землях бальшавіцкіх парадкаў маладога аднаасобніка Калачыка не чапалі – з улікам сямейных абставін нават не мабілізавалі ў армію. Апрацоўвалі 6 гектараў зямлі, трымалі каня, карову, цёлку, свіней, авечак. Гаспадарка немалая, таму круціліся, «як мышы», вобразна параўноўвае Уладзімір Міхайлавіч.

### З польскага серадняка ў савецкія брыгадзіры

У 1949 годзе новая ўлада распачала прымусовую калектывізацыю. Адчуўшы няладнае, многія аднавяскоўцы цэлымі хатамі з'язджалі ў Польшчу: Грышка, Міхал, Фэлька, – пералічвае наш суразмоўца. У тых, хто застаўся, выбару не было: або змірыцца, або выправіцца ў Сібір. Лепшыя землі нацыяналізатары забіралі, узамен давалі лапікі пасярод балот ды кустоўя. Так у калгасе апынуліся і сіроты Калачыкі.

«*Першымі ў калгас хто пайшоў? Так званыя кулакі. Баяліся за жыццё, думалі, што такім чынам уратуюцца. Камусці ўдавалася, а камусці не,* – расказвае Уладзімір Міхайлавіч. – *Памятаю, брыгадзірам у Мароськах быў арандатар Сурынта. Такі добры да людзей, што яго не вывезлі – уступіліся за яго грамадой. Гаспадарку, натуральна, забралі: зямлю, два гектары саду, падчыстую. Перажываў, канечне, а што зробіш? Але калі на сходзе пачыналі брыгадзіра пясочыць, вяскоўцы адразу станавіліся на яго бок. Паважалі, таму выручалі*».

Пасля смерці бацькоў Валодзя не паспеў давучыцца ў школе, давялося засяродзіцца на гаспадарцы. Толькі па вайне завочна скончыў 7 класаў у суседнім Лебедзеве. З калектывізацыяй многія мароськаўскія разбегліся па гарадах, засталіся або п'яніцы, або зладзеі. Калачыка як «шыбка граматнага» (клікалі пісаць пратаколы) узялі ў калгас імя Варашылава брыгадзірам. Неўзабаве паслалі падвучыцца на год у Ашмяны, а пасля – на два гады ў Гродзенскую сельскагаспадарчую школу.

Вярнуўся на радзіму, прызначылі намеснікам старшыні калгаса. Год адпрацаваў, а потым «насільна» забралі ў Маладзечна на пасаду першага сакратара райкама камсамола. Ідэалагічная дзейнасць не клалася на душу – адчуваў сорам перад бацькамі, якія не прапускалі ніводнай службы ў царкве, а ён мусіў змагацца з рэлігіяй. Бачачы, што партыйная кар'ера камсамольца не цікавіць, у 1957-м Калачыка на ягоную ж просьбу вярнулі на зямлю – паставілі на чале калгаса «Светлы шлях» з сядзібай у Заскавічах. У гэтым статусе ён адпрацаваў больш за тры дзясяткі гадоў.

### Эрык Хонекер ды іншыя таварышы

Каб павысіць прафесійны ўзровень, Уладзімір Калачык завочна скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, а пазней і аспірантуру. Стаў кандыдатам эканамічных навук, абараніўшы дысертацыю па тэме павышэння эфектыўнасці выкарыстання зямлі. Поруч з мужам працавала жонка Лідзія, у іх нарадзіліся сыны Валодзя і Ігар.

Амбіцыйнаму кіраўніку ўдалося выйсці за бюракратычныя рамкі і наладзіць наўпроставыя сувязі з профільнымі навуковымі ўстановамі, доследнымі станцыямі і найлепшымі селекцыянерамі. На эксперыментальным полі выпрабоўваліся новыя гатункі бульбы і збожжавых, тэрміны высеву, спосабы апрацоўкі глебы, спалучэнні ўгнаенняў.

Імпэт маладога гаспадарніка партыйнае кіраўніцтва насцярожваў,


Уладзімір Калачык (злева) прымае Пятра Машэрава.

але лічбы статыстыкі сведчылі, што ноу-хау даюць плён. У 1966 годзе яму было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы з уручэннем ордэна Леніна і залатога медаля «Серп і молат». Ён выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і БССР, уваходзіў у склад прэзідыума саюзнага савета калгаснікаў. Яго пачалі ўключаць у склад міжнародных дэлегацый.

«*Ужо не кажу пра савецкіх лідараў, з усімі сустракаўся,* – гаворыць экс-старшыня. – *Таксама ад Таварыства дружбы народаў з дэлегацыямі найвышэйшага ўзроўню ездзіў за мяжу. Быў знаёмы з Эрыкам Хонекерам (ГДР), Войцэх Ярузэльскі (Польшча) падарыў коўдру і прымач, было фота ў газеце, як сядзім з Тодарам Жыўкавым (Балгарыя). Ад немцаў маю залаты медаль – відаць, хацелі загладзіць віну перад маёй сям'ёй. Падазравалі, што нашы сваякі ў партызанах, бацьку двойчы збівалі на горкі яблык, ледзь жывога на кані прывозілі. А гэта няпраўда*».

Уладзімір Міхайлавіч кажа, што ў сярэдзіне 1960-х перад ім не было зачыненых кабінетаў не толькі ў Мінску, а і ў Маскве. Згадвае, што пасля смерці ў 1964 годзе першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова быў у ліку тых, хто ў Крамлі абмяркоўваў механізм «транзіту ўлады». Партыйны наступнік і будучы савецкі генсек Леанід Брэжнеў выклікаў на гутарку 300 адмыслоўцаў у розных галінах, якія выказвалі думкі адносна таго, як жыць далей. Пры такім даверы можна было сабе дазволіць больш, чым іншыя, прызнаецца наш суразмоўца.

«У Вярхоўным Савеце СССР мы паладзілі з Кірылам Арлоўскім (старшыня першага ў Беларусі калгаса-мільянера «Рассвет»). Я быў самы малады дэпутат, 32 гады, і быў прыстаўлены суправаджаць яго пасля пасяджэнняў – ён жа вярнуўся з вайны без рукі, і другая была пашкоджана. Гаварылі пра рознае, у тым ліку пра прыватную уласнасць (публічна – не, бо крамола). Дык мне казаў: «Валодзя, дзяржава дзяржавай, а домік трэба мець прыватны». Калі я пабудаваўся, мясцовыя ўлады хацелі пакараць за «мяшчанства». Але сіл не хапіла, я ўжо быў уваходжы ў высокія кабінеты».

### «Волга» як машына аграрнага прагрэсу

Перадусім статус дапамагаў пазбягаць непатрэбнага кантролю, які выяўлялі пільныя наглядчыкі праз усю вертыкаль улады. Калі найвышэйшыя кіраўнікі – Сяргей Прытыцкі, Кірыла Мазураў, нарэшце Пётр Машэраў – запрашаюць у ганаровыя прэзідыумы, звязвацца з набліжаным «да партыйных целаў» рызыкоўна, усміхаецца Уладзімір Міхайлавіч.

«*Я ўвесь час ганяўся за навукова падмацаваным вопытам: дзе што перадавое – хапаўся мёртвай хваткай. Напоўніцу карыстаўся тым, што меў дыпламатычны пашпарт. У мяне шмат знаёмых у Польшчы, у тым ліку землякі з Мароськаў, якія збеглі ад бальшавікоў. Праз іх мог дастаць любое насенне, якога ў Беларусі яшчэ не было. Сазвоньваўся, сядаў на сваю «Волгу», і праз 12 гадзін мы ўжо вырашалі пытанні ў варшаўскім рэстаране. Яшчэ да вайны па-суседску сябравалі. Хоць яны каталікі, а мы праваслаўныя, разам адзначалі святы і іхнія, і нашы*».

Зрэшты, Польшчай сфера інтарэсаў не абмяжоўвалася. Даведаўшыся пра новы гатунак ячменю, выведзены ў Чэхаславакіі, тэрмінова мчаўся туды – дзеля аднаго «трафейнага меха». Паўцэнтнэра каштоўнай сыравіны размнажалі, і ўжо праз пару гадоў ячмень у «Светлым шляху» даваў па 70 цэнтнераў з гектара.

Аднак нярэдка гераічныя высілкі так і заставаліся нерэалізаванай авантурай. Калі следам за кукурузай у СССР узяліся за рапс, Калачык дамовіўся з польскім калегам, што той падзеліцца насеннем, якое толькі-толькі ўдасканалілі селекцыянеры Францыі – 40 ц/га супраць звычайнага тады паказчыка 16–18. Аналагічная схема: прывезеныя на «Волзе» два мяхі пусцілі ў абарот, і праз год калгас меў нямала элітнай прадукцыі. Гнаіліся за ўраджайнасцю, а нідзе не прымаюць. «*Змалоў і скарміў свінням – ой, як добра ім зайшло!*» – смяецца былы старшыня.

Часам зямляцкія повязі прыносілі зусім нечаканыя дывідэнды, працягвае далей Уладзімір Калачык.

### Бартар на «голых дзеўках»

Па суседстве з Мароськамі дагэтуль стаіць вёска Запалякі – нават сыходзячы з назвы, каталіцкая. Усё жыццё міжканфесійныя суседзі сябравалі, дапамагалі адзін аднаму, пакуль у 1939-м не з'явіліся чырвоныя вызваліцелі. Запаляцкія не сталі чакаць усталявання камуністычнага раю і раз'ехаліся па ўсім свеце.

Напрыканцы 1960-х у суправаджэнні сакратара абкама партыі Палякова ў «Светлы шлях» прыбыла дэлегацыя з Галандыі, каб пазнаёміцца з эксперыментальным бульбаводствам. Поле было ля царквы, адзін з гасцей доўга ў яе ўглядаўся і раптам загаварыў па-польску – аказаўся з гэтых мясцін.

«*Я польскую добра ведаю, усё ж пачынаў у польскай школе, потым колькі перакладаць даводзілася,* – усміхаецца паліглот. – *Разгаварыліся, я згадаў пана Пшэлескоўскага, які меў тут уладанні. І той ледзь не заплакаў: «Дык я ж у яго быў аграномам!» Селі ў машыну і паехалі да тых запаляцкіх каталікоў, якіх ён яшчэ памятаў. Гаспадары адразу на стол самагонку, каўбасу, пальцам пханую, размовы-ўспаміны... А праз нейкі час атрымліваем з Галандыі два вагоны сартавой бульбы. Бясплатна! Засадзіў ёю 20 гектараў, і яна ўрадзіла 600 цэнтнераў! Во як...*»

Наступная гісторыя наогул напаўдэтэктыўная. Аднойчы ў складзе дэлегацыі Усесаюзнага савета калгасаў Уладзімір Калачык выправіўся ў Канаду. У кампаніі «маскоўскіх варацілаў» выконваў функцыю «прыкрыцця»: у гатэлі на яго афармляўся самы вялікі нумар, каб партыйныя босы маглі ўвечары сабрацца і без рызыкі быць падслуханымі выпіваць і гаманіць за жыццё.


Старшыня калгаса і госці з Галандыі.

Намінальны гаспадар пакоя тым часам прагульваўся каля рэцэпцыі. Кіўнуў галавой супрацоўніцы, аўтаматычна вымавіўшы «Добры вечар!». «Адкуль пан будзе?» – раптам пачулася ў адказ. «З Беларусі, з-пад Маладзечна». – «А я з Баранавічаў!»

Слова за слова, Уладзімір Міхайлавіч згадаў пра іншую суседку-мігрантку – Аршульку. Пры Польшчы яна выйшла замуж за каменданта і пасля апынуліся аж у Атаве – куды лёс закінуў і яго. Калі афармляў службовы пашпарт, у анкеце пісаў, што не мае сваякоў і знаёмых у капіталістычных краінах. Але, выпраўляючыся ў Канаду, запісаў яе каардынаты на паперку і глыбока схаваў на выпадак праверкі.

Жанчына патэлефанавала. Аршулька з мужам усё кінулі, прымчаліся ў гатэль і пачалі цягнуць да сабе – проста недаравальна не пагасцяваць.

«*Кажу начальніку: маўляў, так і так, як бы ненадоўга адлучыцца,* – згадвае Калачык. – *Той перанакіроўвае да нейкага камсамольца, кіраўніка групы карэспандэнтаў. Аказалася, гэбіст. Ну, пайшоў, прашуся. «Куда собрался, кто разрешал?» Я не разгубіўся: «Ваш палкоўнік сказаў, што я павінен пагаварыць з тымі людзьмі». І па-змоўніцку – «сами понимаете». На хаду панавыдумляў, а ён узяў і адпусціў... Ой, добра прымалі! У іх дома бар, там сотні бутэлек. І ніхто не прымушаў, як у нас, выпіць, «бо не паважаеш». Налівай колькі хочаш ды пі*».

Гаспадар трымаў канцылярскую краму. Пабачыўшы незвычайную яскравую драбязу, госць адразу забыўся на прынцыпы будаўніка камунізму і запаў на каляровыя аўтаручкі, унутры якіх пры нахіле раздзяваліся дзяўчаты. Перад ад'ездам з Масквы членам дэлегацыі выдалі па 500 долараў. 100 з іх Калачык патраціў на «апошні цуд тэхнікі» і потым усюды раздаваў. Сувенір ішоў на ўра. Доўга яшчэ жартавалі з таго бартару: за эратычны прэзент мінскі начальнік даў калгасу трактар.

### Верныя «падтакваль» аграрыя №1

У той час хоць і быў жорсткі кантроль, але хто рызыкаваў і дасягаў вынікаў – меў своеасаблівы картбланш ад партыі, тлумачыць наш суразмоўца.

«Нават калі б на мяне хто і наваліўся, там бы і злез. Чымсьці я быў даспадобы Машэраву, таму і баяліся са мной канфрантаваць. Разоў пяць, а мо і болей, Пётр Міронавіч прылятаў да нас на верталёце. Распытваў пра тэхналогіі, цікавіўся планамі. Сядаў вось тут каля хаты, жонка выносіла абед. Я хоць і быў старшынёй, але трымалі кароў, свіней, былі свае каўбасы, сала, тварог, мёд, гарбата з мятай. А ўжо Машэраў наўзамен частаваў замежнай кавай, іншымі дэфіцытамі. І мы ўжо ведалі: калі збіраецца ў наш бок, хоць на гадзінку заляціць у Заскавічы».

Сёння ягоных уганараваных калег не толькі не згадваюць, а нават спрабуюць зрабіць злачынцамі. Уладзімір Міхайлавіч рытарычна запытваецца: у каго паднялася рука кінуць у турму 80-гадовага ветэрана-гаспадарніка, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Васіля Старавойтава? Або хто з цяперашніх кіраўнікоў аграрнай галіны дадумаўся скарыстацца найбагацейшым досведам іншага двойчы Героя Уладзіміра Бядулі?

«*Хто добрым словам згадвае гэтых ды іншых герояў? Раней хоць да святаў выпісвалі 100–200 рублёў, а цяпер ужо няма, прэміруюць толькі тых, хто адзначыўся падчас вайны. Іншых Герояў Сацпрацы, калі яны не ўдзельнікі Вялікай Айчыннай, выкраслілі. Я не наракаю на беднасць, грошай мне хапае. Пенсія захавалася, за зорку плацяць дзесьці 300 рублёў. Але ж не ўсё аднымі купюрамі вымяраецца, важнае і чалавечае стаўленне да людзей, якія ўсё паклалі на карысць справы*», – кажа Уладзімір Калачык.

Намінальна ў Беларусі калгасаў не засталося, гаспадаркі рэарганізаваны ў сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы. Аднак сутнасна практычна нічога не змянілася: сяляне не атрымалі чаканай свабоды, а прызначаных над імі кіраўнікоў па-ранейшаму кантралюе шматузроўневая вертыкаль.

«*Са мной не мірыліся, бо выступаў супраць узбуйнення гаспадарак,* – гаворыць былы старшыня. – *Так, сучасную тэхніку не параўнаць з тым, як я пачынаў: сярпамі жалі ды цапамі малацілі. Людзі пад камбайны кідаліся, баяліся, што застануцца без працы. Перадусім хацеў, каб быў своеасаблівы банк, у якім кожны працаўнік меў бы свой пай. Гэтая доля пры добрых паказчыках павінна заахвочвацца, чалавек мог бы яе забраць ці перадаць у спадчыну. Быў бы стымул! А сёння – прыгоннае права, яшчэ горш, чым было некалі. Усё даводзіцца зверху, крок не ў той бок – турма*».

Цяперашні кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка – калега Уладзіміра Калачыка. Пачынаў у сельскай гаспадарцы, даслужыўся да дырэктара саўгаса на Шклоўшчыне. Стаў прэзідэнтам, а зямля не адпускае дагэтуль: ці не палова працоўных паездак – аграгарадкі, фермы, палеткі. Аднак стылі зносін з людзьмі ў іх відавочна розныя. Больш баяцца, чым паважаюць, кажа Калачык пра Лукашэнку.

«*Ён абапіраецца на вярхі, а трэба і да нізоў дастукацца. Тыя, хто поруч, падтакваюць і нічога не робяць. Ну, калі чалавек тысячы тры мае, навошта некуды лезьці? Кватэра, дом, службовая машына, што яшчэ трэба? Таму патураюць любому слову. Разумны хлопец (Лукашэнка), але прама бык: калі што ўздумаў, то ўсё, нікога не слухае. Атрымаецца – герой, не – ну і ладна, ніколі сам не пакаецца. Кожны дапускае памылкі. І калі я загадваў рабіць адно, а выходзіла іншае, публічна казаў: «Прабачце, не меў рацыі». Гэтым і выйграваў, што заўсёды трымаў сувязь са сваімі людзьмі*».

### Кукіш пад носам сакратара ЦК

Калі рэлігія яшчэ не стала трэндам, але подых перабудовы ўжо патрабаваў развароту да духоўных каштоўнасцяў, Уладзімір Калачык узяўся за аднаўленне шматлікіх храмаў, большасць якіх на падведамаснай яму тэрыторыі стаялі занядбаныя або выкарыстоўваліся як склады. Грошай у калгаснай касе было дастаткова, не хапала толькі волі партыйных куратараў.

І калі ў Беніцы пачалося аднаўленне гістарычных будынкаў касцёлу і царквы (пачатак XVIII стагоддзя і другая палова XIX стагоддзя адпаведна), а пазней і культавых будынкаў у іншых вёсках, да «няправільнага камуніста» завіталі высокія госці.

«*Тэлефануюць: едзе сакратар ЦК КПБ па сельскай гаспадарцы Дземянцей Мікалай Іванавіч і сакратар абкама партыі – прозвішча ўжо не памятаю. Ну, давайце паглядзім вашы палі ў Беніцы. Па дарозе падабралі начальніка доследнага ўчастка і пачынаюць: «Міхайлавіч, кажуць, ты нейкія крыжы ставіш?» «Ды ён, мабыць, вернік», – засмяяўся начальнік участка. Я павярнуўся ды кукіш яму ў нос – не лезь не ў свае справы! Усе замоўклі. Пад'язджаем да касцёла – ставяць крыжы. Тлумачу, што такімі рэчамі не раскідваюцца, трэба захаваць нашчадкам. Нічога не сказалі, цішыня...*»

Пасля інспекцыі паехалі ў калгасны рэстаран – тады яшчэ рэдкі выпадак для вёскі, хоць, як кажа Уладзімір Калачык, з улікам бясконцых караванаў рэч неабходная.

Падчас абеду Дземянцей не вытрымаў і запытаўся: «А ці ведаеш, Міхайлавіч, чаму мы прамаўчалі, калі ты, камуніст, зрабіў непрымальны жэст не толькі ў бок свайго падначаленага, а і нас, вышэйшых званнем?» І калі той паціснуў плячыма, сам адказаў: «Калі б наверсе даведаліся, што Калачык спакойна раздае дулі ў прысутнасці сакратара ЦК, нас бы назаўтра павыганялі...»

Праваслаўныя цэрквы ў Беніцы, Мароськах, Турэц-Баярах давесці да ладу ўдалося, а вось з беніцкім касцёлам узніклі праблемы – каталікі зніклі разам з прыходам савецкай улады, а новымі мястэчка не прырасло. У адсутнасць вернікаў браць аб'ект на баланс касцельныя ўлады палічылі нямэтазгодным.

У 1988 годзе Уладзімір Калачык развітаўся з працоўным калектывам, якому прысвяціў крыху больш за 30 гадоў свайго жыцця (за аналагічны час пасля яго «Светлым шляхам» кіравалі ажно 12 старшыняў). Кажа, што мог бы працаваць і надалей, але дасталі прапановамі перамясціцца на пасаду сакратара Маладзечанскага райкама партыі. Тройчы выклікалі ў Мінск, угаворвалі, спакушалі матэрыяльнымі дывідэндамі. Адгаварыўся, што збірае матэрыялы, працуе над доктарскай дысертацыяй, няма часу.

Каб нарэшце пакінулі ў спакоі, два перадпенсіённыя гады адпрацаваў генеральным дырэктарам агракамбіната «Маладзечанскі».

У 1990-м выйшаў на заслужаны адпачынак і нарэшце апынуўся ў кругу сям'і, якой з-за празмернай занятасці перападала не так шмат ягонай увагі. З вернай спадарожніцай усяго жыцця Лідзіяй Васільеўнай у іх два дарослыя сыны, якія рэгулярна наведваюцца, шануюць бацькоў.

«*Хоць мы і гаворым, што цяпер свабоды больш, а насамрэч яе меней, чым калі мы працавалі,* – падсумоўвае Уладзімір Калачык. – *Я ішоў на любую рызыку, не зважаючы на наступствы. І так паставіў сябе, што не маглі нічога зрабіць ні беларускі ЦК, ні тым больш абкам. Сёння хтосьці адважыцца падаць голас? Сумняваюся. Нават калі б мяне выключылі з партыі за тое, што займаюся касцёлам, выкінулі з працы, дык я ведаў усіх рэктараў, мог пайсці ў той жа «наргас» чытаць лекцыі. Усё ж кандыдат эканамічных навук, абараніў дысертацыю. Вось такая мая гісторыя...*»

**Ігар КАРНЕЙ.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар**
**Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 07.10.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 006 экз. Заказ № 3463.

9 772071 964000 19079